# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 16 (1051) ГОД XXI 18 КРАСАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Дуэт з Гарадка Галена Кот і Ірэна Паўлючук заняў першае месца ў катэгорыі сучаснай песні.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Пуцяводныя думкі

Для аднаго навука — узвышаная, нябесная багіня, для іншага — дойная карова, якая забяспечвае яго маслам.

*Ф. Шылер*

Сябелюбная мудрасць гнюсная ва ўсіх выглядах сваіх.

*Ф. Бэкон*

Сапраўды сумленны чалавек павінен ставіць па-над сабой — сям'ю, па-над сям'ёй — айчыну, па-над айчынай — чалавецтва.

*Ж. Даламбер*

Карэспандэнцыя з Мінска

**ІНТЭРВ'Ю СА СТАРШЫНЁЙ ДЗЯРЖПЛАНА БССР ПІЛІПАМ КОХАНАВЫМ**

# ПЕРСПЕКТЫВЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

**Якія галіны прамысловасці ў асноўным прадстаўлены сярод новабудоўляў? З якіх меркаванняў зыходзілі планавыя органы краіны, размяшчаючы гэтыя прадпрыемствы менавіта ў Беларусі?**

— Аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў нашай рэспубліцы за гады дзевятай пяцігодкі на 64 працэнты замест 53-56 працэнтаў, прадугледжаных Дырэктывамі XXIV з'езду КПСС. У той жа час прадукцыя хіміі і нафтахіміі ўзрасла ў 2,7 раза, машынабудаўніцтва і металаапрацоўкі — у 2 разы, электраэнергетыкі — у 1,7 раза. Цяпер у Беларусі прадукуецца палова агульнасаюзнага выпуску калійных солей, кожны шосты савецкі трактар, кожны сёмы металарэжучы станок і падшыпнік, звыш 16 працэнтаў хімічных валокан.

Сярод новабудоўляў — у асноўным прадпрыемствы ўказаных галін. Чаму? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба зрабіць невялікую экскурсію ў далёкае мінулае, у той час, калі быццам занава стваралася наша індустрыя.

Пасля выгнання з беларускай зямлі нямецка-фашысцкіх захопнікаў (ліпень 1944 года), народная гаспадарка рэспублікі, амаль поўнасцю разбураная і зрабаваная, больш за ўсё патрабавала трактароў, грузавых аўтамабіляў і станкоў. Было прызнана мэтанакіраваным пабудаваць у Мінску і іншых беларускіх гарадах шэраг буйных машынабудаўнічых заводаў.

Дзесяць год назад на Палессі (поўдні Беларусі), у Еўрапейскай частцы СССР, не маючай добрых паліўных рэсурсаў, геолагі адкрылі буйныя месцанараджэнні высакаякаснай маласярністай нафты, якой ужо здабыта амаль 44 мільёны тон. Гэта садзейнічала далейшаму бурнаму развіццю беларускай хіміі і нафтахіміі, гэта стала, у сваю чаргу, новым штуршком для росту электраэнергетыкі. У Навалукомлі пабудавана буй-

(Працяг на стар. 2)

## Новыя вершы

*Пакуль у неба б'юць пад'ёмы*
*І час пружыніць павады —*
*Не ведай радасці і стомы,*
*У мітульзе не трацъ гады.*
*Хай радасць слабага пацешыць,*
*Піжона стома падсячэ,*
*А нам не варта носа вешаць:*
*Усё наперадзе яшчэ!*
*Твары спрадвечны круг мазольны:*
*Ары і сей, гадуй і жні.*
*У пустамоўнасці застольнай*
*Засекі дум не спаражні.*
*У працы — сэнс, і плён, і праўда,*
*І запавет, стары, як свет:*
*Каб ніва каласіла спраўна*
*І не буяніў пустацвет.*
*І з іншай радасцю не знацца,*
*на ўсё жыццё — адзін урок:*
*Хлеб не расце пад гром авацый.*
*І ў гэтым — тайна. І зарок.*

**Васіль Зуёнак**



*Вырасла беларуская нафтахімія.*

*Нашым чытачам і сімпатыкам шлем найлепшыя святочныя пажаданні! „Ніва"*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Беларусы на Заходнім Памор'і ● ГОК у Міхалове ● Рэвалюцыйны рух на Беласточчыне ў беларускай энцыклапедыі ● Адкрываем новага паэта ● Валачобнікі ● БГКТ на Гайнаўшчыне ● Музей у белавежскай хаце ● Я быў у Грузіі ў 1921 ● Весткі з Чыжоў, Бельска, Орлі, Кузавы, Саколкі, Сацоў, Нараўкі, Галадоў, Шудзялава, Крываціч, Гайнаўкі ● Калі сніцца пакойнік ● Песня „Nasz świat".**

VIII З'ЕЗД БГКТ

БАНК ДУМАК

# ФАЛЬКЛОР У БЛУЗЦЫ З ПТКО?!

У сувязі з магчымасцю выказацца ў „банку думак", я вырашыла дакінуць некалькі ўваг аб нашай мастацкай самадзейнасці. Жывым матэрыялам для гэтага паслужыў мне агляд „Беларуская песня-76", цэнтральныя эліміінацыі якога адбыліся 29 лютага ў Беластоку.

Цешыць факт, што многія спевакі ўжо ўраслі ў агляды і сталі трывалай пазіцыяй нашага самадзейнага руху (маю тут на думцы Гарадок, Бельск, Дубяжын, Плёскі, Беласток, Новую Волю, Мяляшкі і інш.). Выраслі многія. Навучыліся. Адначасова ўсё большае месца ў праграме аглядаў пачынае займаць народная рэгіянальная песня. Усім нам вельмі залежыць на тым, каб была яна экспанавана. Але гэта справа не такая простая, як здавалася б на першы погляд.

Нашы самадзейнікі не могуць забывацца аб тым, што спявак на сцэне — гэта адначасова і акцёр. А калі акцёру прыдзяляюць нейкую ролю ў тэатры, дык бяруць пад увагу ўсе яго спецыфічныя валёры: талент, выгляд, голас, нават характар. Але ў тэатры гэта робіць рэжысёр, нашы ж спевакі і спявачкі (асабліва тыя, што з гушчы народу, прадстаўляючыя аўтэнтычныя рэгіянальныя песні) найчасцей уступаюць на сцэну самачынна, кіруючыся толькі сваім талентам і інтуіцыяй. Софія Цацэрка з Баброўнікаў, якая бясспорна заняла першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні (прыгожы голас, высокая культура спеву, карацей кажучы, знаёмасць справы) яшчэ больш выйграла б у нейкай вельмі-вельмі сентыментальнай праграме. Бадай, ніхто не падказаў ёй, што да яе далікатнага голасу і даволі кволай постаці не занадта будзе падыходзіць роля баявой, гарэзлівай бабы, якую яна інтэрпрэтавала.

І таму ў развіцці нашага самадзейнага руху такая важная роля заангажаванага і вопытнага рэжысёра, кіраўніка ці прынамсі кансультанта. Гэта ён павінен падказаць самадзейнікам, якую выбраць песню, каб адпавядала і патрабаванням конкурсу і магчымасцям спевака, падказаць, як апрануцца і як весці сябе на сцэне, адным словам, як выступіць, каб праца не змарнавалася, каб

(Працяг на стар. 4)

## ЛЮДЗІ БГКТ

# Янка Крупа



Той, хто чуў пра беларускі эстрадны калектыў „Лявоніха“, хто бачыў яго выступленні, той не пацісне абыякава плячыма, пачуўшы гэтае прозвішча. А здавалася б, няма ў гэтым чалавеку нічога асаблівага, што магло б выдзяляць яго сярод іншых. Так як і ўсе, працуе. Так як і ўсе, жыве сённяшнім днём, ткучы думкамі-павуціннем дыван мараў на будучыню. Але калі ў паветра ўвальюцца рытмічныя акорды танца і гэты дзівосны кактэйль заказыча вуха нашага сённяшняга героя, калі яго нага пачуе цвёрдую апору, тады ўжо перад намі не той Янка Крупа, з якім мы сустракаемся ў штодзённым жыцці. Яго месца займае мастак-танцор.

Мастацкую дзейнасць распачаў ён у 1953 годзе, будучы вучнем Педагагічнага ліцэя ў Бельску. Арганізаваўся тады там песенны калектыў, пры якім, дзякуючы Тані Гіжэўскай, што, закончыўшы вучобу ў Савецкім Саюзе, вярнулася ў свой родны горад, радзілася танцавальная група. Гэтая група і была той крыніцай, што дала пачатак рачулцы, на хвалі якой спусціў свой паром Янка Крупа.

Вялікія змены прынёс 1956 г. Узнікла БГКТ.

Пры Галоўным праўленні пачалі ўзрастаць першыя парасткі ансамбля песні і танца. Людзей не хапала, асабліва ў танцах. Дапамог Бельск. Сярод ахвотных апынуўся і Янка Крупа. Распачаў ён падвойную дзейнасць, гэта значыць надалей як член хора — танцавальнага калектыву ў Бельску і як танцор новаўзнікшага ансамбля ў Беластоку. Аднак, 1956 г., відаць, багаты быў для яго рознымі здарэннямі. Прызвалі ў армію. Шчаслівая зорка, пад якой ён нарадзіўся, не дазволіла парваць з артыстычнай дзейнасцю ў родным наваколлі. Так здарылася, што вайсковую службу нёс ён у Беластоку, і, як толькі надарылася вольная хвіліна, адразу ўключаўся ў вір перарванага жыцця ў ансамблі.

Пасля заканчэння службы хацеў вярнуцца ў Бельск і зноў распачаць дзейнасць у доме культуры. Аднак старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Уладзімір Станкевіч параіў застацца ў Беластоку. Гэта быў якраз той час, калі задумоўваліся над стварэннем невялікай эстраднай групы, якая магла б ездзіць у вёскі і даваць канцэрты. Думка здзейснілася. Восенню 1960 г. новая група дала першы канцэрт у зале таварыства, які быў заадно экзаменам. Менавіта ад гэтага канцэрта залежала, ці зможа ажыццявіцца думка аб паездцы ў вёскі Беласточчыны. Ваяводская верыфікацыйная камісія дала дазвол, і ў пачатку 1961 г. адбыліся хрэсьбіны. Назвалі „Лявоніха“. З гэтай групай аж да канца (пералом 1971 і 1972 г.г.) быў цесна звязаны Янка Крупа. Аставіў ён там частку свайго жыцця. Надоўга запамяталіся людзям беларускія народныя танцы ў яго выкананні.

— Не раз было і так, што падыходзілі ды мацалі, каб пераканацца, ці выступаюць перад імі сапраўдныя людзі, — успамінае Янка Крупа.

Ды і няма чаго дзівіцца, калі ўлічыць, што святло ды радыё, не гаворачы ўжо пра тэлевізар, было тады на вёсцы дзіковінкай. А тут раптам „Лявоніха“! Акцёры! Ды яшчэ і спяваюць на беларускай мове, а нават і танцы беларускія выконваюць.

— Калі ўспомніш першыя крокі, то аж цяжка ўявіць, што ўсё гэтае перажылося, — зноў успамінае ён. — Не было святліц, не было дзе пераапрануцца. Дарогі дрэнныя. Аднойчы за той час, пакуль выступалі ў Чыжах, наш стары „Зіс“, які стаяў на вуліцы, так застраў, што мусілі аж да раніцы сядзець.

Аднак, жыццёвая дарога Я. Крупы не была такая простая. Адыходзілі ад яе і розныя сцяжынкі. Вось павернем на адну такую. У 1962 г. пакідае ён калектыў і едзе ў Варшаву, дзе распачынае штудзіраваць харэаграфію. Пасля заканчэння вучобы працуе ў Музычным тэатры ў Шчэціне. Аднак тое, што пакінуў у Беластоку, не дае яму спакою. І праз нейкі час зноў вяртаецца ў Беласток. Зноў разам з „Лявоніхай“ ездзіць па Беластоцкай зямлі, зноў не разлучаецца з танцамі.

А што робіць цяпер, калі гэта эстрадная група з'яўляецца ўспамінам? Апякуецца драматычнымі і вакальнымі калектывамі. Дапамагае маладым, падбадзёрвае старэйшых. Наладжвае вечарыны. І так, гледзячы на ўсё гэта, здаецца, што „Лявоніха“ не памерла. Яна жыве ў сэрцы Янкі Крупы, толькі што ён не выступае, а дапамагае другім выступаць.

За сваю плённую дзейнасць наш актыўны дзеяч у галіне культуры быў узнагароджаны знакам „Заслужаны дзеяч культуры“ і сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны“.

**М. Шаховіч**

## ХРОНІКА

Адбыліся справаздачна-выбарныя сходы ў многіх гуртках БГКТ.

■ У Новай Волі (гміна Міхалова) новае праўленне: Аляксандр Філіпюк — старшыня (ён таксама дэлегат на з'езд БГКТ), Ірэна Іванюк — сакратар, Уладзімір Калiноўскі — скарбнік і Юрка Васько — член.

■ У Міхалове члены БГКТ выбралі старшынёю гуртка і дэлегатам на з'езд БГКТ вядомага актывіста нашай арганізацыі Антона Саковіча, сакратаром — Галіну Госцік, скарбнікам — Янку Палоцкага і членам праўлення — Анатоля Супранюка.

■ Гарадоцкі гурток БГКТ далей узначальвае Ніна Мушынская. Намеснікам яе з'яўляецца Вольга Нядзведзева, сакратаром — Тамара Бурачэўская і скарбнікам — Яўген Мартонік. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбрана Тамара Бурачэўская.

■ У Пянъках (гміна Міхалова) новае праўленне складаецца з наступных асоб: Раман Канчук — старшыня, Галіна Амбражэй — сакратар і Люба Ярмоліч — скарбнік.

■ У Аўгустове (гміна Бельск) на справаздачна-выбарным сходзе пасля абмяркоўкі дагэтуляшняй і далейшай дзейнасці адбыліся выбары праўлення гуртка: Яўген Анісько — старшыня, Марыя Навіцкая — сакратар, Раіса Навіцкая — скарбнік і членамі — Анатоль Верамеюк і Юрка Лявоцюк. На з'езд БГКТ паедзе Яўген Анісько.

■ У Дубічах Царкоўных члены БГКТ абмяркавалі план працы да канца бягучага года і абмяркоўвалі, як стварыць мастацкі калектыў. У склад нова праўлення ўвайшлі: Лявон Шэшка — старшыня, Раіса Куптэль — сакратар, Барбара Тамашук — скарбнік; члены — Мікалай Тэлятыцкі, Галіна Карпюк, Мікалай Лаўрэшук, Рыгор Шварц, Вера Баравік, Янка Баравік. Дэлегатам на з'езд выбраны Рыгор Шварц.

■ Новае праўленне выбралі таксама члены БГКТ у Чыжыках (гміна Гайнаўка). Анатоль Койла — старшыня, Уладзімір Асіпюк — сакратар, Юрка Тамашук — скарбнік і члены праўлення: Іван Шварц, Ніна Тамашук, Уладзімір Эмільянюк, Вера Эмільянюк, Нікіфар Бурачык і Іван Кінель.

■ У Гацьках (гміна Храбалы) праўленне гуртка ўзначаліла Яўгенія Мусько. Сакратаром — Валянціна Дамброўская, а скарбнікам — Аляксандр Каршак.

■ У Вульцы (гміна Орля) старшынёю гуртка ад нядаўна з'яўляецца Ірэна Ядла, сакратаром — Ніна Рыбачук і скарбнікам — Іван Хурса. (м.х.)

## НЕ ТОЛЬКІ ВУЧЫЦЬ І ВУЧЫЦЦА

— Тое, што я выбрала сабе працу настаўніка і якраз навучанне роднай беларускай мове, з'яўляецца заканамернасцю, — сцвярджае **Алла Якубоўская.** — Тут, у Нарве, я нарадзілася, тут хадзіла ў пачатковую школу, тут адкрылася перада мною краса нашай народнай традыцыі, прыгажосць роднай мовы, багацце беларускай літаратуры. І я вырашыла прысвяціць сябе азнаямленню дзяцей з усім родным, прывіванню да яго пашаны і любві...

Пасля заканчэння пачатковай школы яна накіроўваецца ў беларускі клас педагагічнага ліцэя ў Бельску. Ужо з дыпломам кваліфікаванай настаўніцы ў 1958 г. пачынае свой нялёгкі працоўны шлях. Пачаткова вучыць у аднакласных школах у Даратынцы, Ваневе, Анцутах і пераконваецца, што вынесеныя з сярэдняй школы веды яе не задавальняюць. А. Якубоўская паступае на аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку.

— Незабыўныя ўражанні пакінулі на ўсіх нас, студэнтах, лекцыі Н. Гілевіча, В. Казловай, Л. Шакуна — выкладчыкаў з Беларускай ССР, — прыгадвае А. Якубоўская. — Усе мы вельмі ахвотна вяртаемся да ўспамінаў тых хоць і не лёгкіх, але як жа ж прыемных сесій, залікаў, экзаменаў.

Праца, дом, выхаванне сваіх дзяцей — усё гэта, здавалася б, цалкам паглыне А. Якубоўскую. Аднак яна знаходзіць у сабе столькі сілы, каб працягваць вучобу. Паступае на завочнае аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. І вось ужо чатыры гады сістэматычна ездзіць на сесіі, рэгулярна і паспяхова здае экзамены. І гэта ў тым часе, калі яе старшы сын Аляксандр ужо ў другім класе Тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі, дачка Ева ў першым класе Электрычнага тэхнікума ў Беластоку, сын Багдан у шостым класе пачатковай



школы, а найменшай дачцы Асі ўсяго два з паловай годзікі. Праўда, ёй ва ўсім дапамагае маці. Але ж, вядома, у такой сям'і і для дзвюх жанчын работы ўдосталь.

— Што і казаць, усё сваё жыццё я вучуся і вучу, — заўважае яна. — І не наракаю, гэта мне падабаецца. Хоць і даводзіцца пераадольваць многа цяжкасцей. Цяпер збіраю матэрыялы да дыпломнай працы на тэму „Абрадавасць і звычаёвасць мястэчка Нарвы“. Запісала ўжо шмат легенд і песень, асабліва хрысцінных і вясельных. Калі ў мінулым годзе была на настаўніцкім курсе ў Мінску, сабрала там многа цікавага матэрыялу з мінулага нашага мястэчка. Імкнуся напісаць работу змястоўную і цікавую.

У Нарве А. Якубоўская ўжо восьмы год вучыць беларускай і рускай мовам. У яе класе-кабінеце старанна зроблена насценная газетка „Мінск — сталіца

**(Працяг на стар. 4)**

## СЛАЎНАЯ СЯМ'Я КЕЛЕРАЎ

Ваяводская камісія прафсаюзаў рашыла паказаць радаслоўныя рабочых. Дык з пашанай бяру ў рукі тоўстую кнігу вялікага фармату з чырвонай вокладкай. Залатыя літары апавяшчаюць:

**„РАДАСЛОЎНЫЯ, ЗАПІСАНЫЯ ПРАЦАЙ“.**

Запоўнены ў ёй ледзь першыя старонкі. На першым месцы знаходзім тут інфармацыю пра сям'ю **Язэпа** і **Вольгі Келераў,** — васількоўскіх тэкстыльшчыкаў, якія з'яўляюцца жывой гісторыяй тэкстыльнай прамысловасці беластоцкай прамысловай акругі.

**Старэйшаму з роду Келераў зараз 82 гады.** Гляджу на яго, і не хочацца верыць уласным вачам. Выпраставаны, плячысты, старанна выбрыты, бадзёры, старэйшы чалавек. Побач яго — жонка Вольга. Круглы твар, парэзаны маршчынамі, пабялелыя ад старасці валасы, шмат ніжэйшая ад мужа.

А поруч — іх сын **Брунан** з жонкаю, а далей — унукі з жонкамі: **Зыгфрыд** і **Яніна, Ежы** і **Зофія** — таксама ўжо людзі сталага ўзросту і таксама — тэкстыльшчыкі.

Усе яны — ад прадзеда да ўнукаў, ад прабабкі да самых малодшых нявесткак — звязалі сваё жыццё з адным прадпрыемствам, з **прадпрыемствам ваўнянай прамысловасці імя Эміліі Плятэр у Васількове.**

Дарэчы, у тэкстыльнай прамысловасці працавалі і бацька і дзед Язэпа Келера. Першапачаткова ў Міхалове, якое яшчэ тады называлася Нязбодкай, а пасля прыходзілася вандраваць за працай па розных тэкстыльных фабрыках Беластока, Супраслі і Васількова.

— Наша сям'я заўсёды славілася выдатнымі майстрамі, — з гордасцю гаворыць Язэп Келер.

Школай для Язэпа Келера была фабрыка, а настаўнікам — самым суровым і непадкупным — штодзённая назойлівая праца. Школ сапраўдных дачакаліся толькі ўнукі Язэпа Келера. І такім чынам адзін з іх стаў ужо інжынерам, пачынаючы новы раздзел у радаслоўнай тэкстыльшчыкаў.

І тут можна было б ужо закончыць гэтую гісторыю. Аднак трэба яшчэ некалькі слоў прысвяціць бабульцы Вользе. **Яна — радавітая масквічка.** У маладосці была дзяўчынай рэдкай прыгажосці. Язэп, калі ўпершыню яе ўбачыў, служыў у войску, быў чырвонагвардзейцам. А яна — гімназісткай, маладзенькай энтузіясткай рэвалюцыі, дзяўчынай з паэтычнай душой. І закахаліся яны, як героі нейкага рамана, ад першага погляду. Такім чынам масквічка Оля разам з мужам апынулася ў Васількове, дзе ў 1927 годзе Язэп Келер пераняў пасля бацькі пасаду майстра тэкстыльнай прамысловасці, а жонка Вольга займалася дамашняй гаспадаркай і вучыла маладых дзяўчат французскай і нямецкай мовам, якімі добра валодае. А калі сум за далёкай бацькаўшчынай ужо моцна надакучыў, тады цішком пісала вершы — па-руску. Вось некалькі радкоў з верша, якім Вольга Келер вітала вызваленне Васількова ад гітлераўскай акупацыі. Пасля падзякі за гэтае вызваленне, пасля палымянага закліку да вызвалення ўсіх народаў, яна пісала:

*„Теперь пришла пора учиться,*
*Изобретать, творить, трудиться,*
*Ленивым быть нам не годится...“*

І гэты верш чытае яна сама бадзёрым, урачыстым голасам, быццам памаладзеўшы на гадоў дваццаць.

Вось якая слаўная сям'я Келераў. Гэтую славу стваралі яны цяжкай працай пяці пакаленняў. І таму кланяюся ім з пашанай.

**Віктар Рудчык**

# ФАЛЬКЛОР У БЛУЗЦЫ З ПКО?!

(Працяг са стар. 1)

мелі сатысфакцыю і самадзейнікі і слухачы, прыйшоўшыя на агляд. Дальбог, каб скупаўскія жанчыны не выступілі ў модных блузачках краёвых і заграначных (а мо нават і з ПКО!), а ўзялі і высіліліся на нейкія народныя ўборы, якія б дапаўнялі іх фальклорны рэпертуар, то выпалі б намнога лепш! У гэтых адносінах мне вельмі спадабалася трыо з Новай Волі. Выглядалі жанчыны вельмі маляўніча, мелі тыповую для беларусак народную вопратку: вышываныя блузкі, спадніцы, хвартухі, усе ў ботах. Але асабліва маляўніча выглядалі іх хвартухі, і кожны быў іншы: у адной — багата вышываны ў кветкі, у другой — традыцыйныя пеўні, у трэцяй — райскія птушкі. Мой чытач напэўна скажа: спявачкі былі старэйшыя, і напэўна тыя хвартухі маюць з даўнейшых добрых часоў, калі прывабы будучай жонкі яшчэ мераліся яе працавітасцю і колькасцю вышыванай бялізны, калі ў спаборніцтва з народным і натуральным яшчэ не ўступіла хімія. Але няўжо так назаўсёды пераявліся ў нас народныя ўмеліцы? І няўжо ў доўгія зімовыя вечары маладыя людзі не могуць хоць на пару дзён адарвацца ад тэлевізара ў хаце ці вясковай святліцы, каб заняцца нечым іншым — вось — хаця б нешта вышыць (тым больш, што гэта зноў у модзе) і пастарацца як след, старанна падрыхтавацца да будучага агляду?! Бо пры падрыхтоўцы да яго нельга занядбаць ніводнага элементу, з якога склаўся б будучы поспех. І гэта моладзі таксама павінен нехта падказаць.

У нашыя дні народная культура не можа і не павінна развівацца самапасам. Пры сучасных сродках масавага пераказу, пры амаль паўсюдным тэлебачанні цяжка захаваць чысціню народнай культуры ад знешніх налётаў і пераказаць яе ў нескажоным выглядзе сваім нашчадкам. Глядзела я на калектыў з Плёсак і думала: добра, дзяўчаткі, што вы хацелі народнымі танцавальнымі крокамі ўпрыгожыць свой фальклорны рэпертуар, але, паверце, у вашым выкананні былі гэта, на жаль, звычайныя крокі ў рытме біг-біту, якімі перамерваеце ў суботнія вечары вясковую святліцу...

Патрэбна неадкладная прафесіянальная дапамога калектыву са Збуча! Цікавы калектыў, які пастараўся са свайго выступлення зрабіць прыгожае, арыгінальнае відовішча. Хаця выступіў ён упершыню, то мае вялікія задаткі, і нельга яго не заўважыць, нельга дапусціць да таго, каб ён заняпаў; трэба ім заняцца.

Умелая рука кіраўніка відаць выразна на прыкладзе вопытнага і заслужанага калектыву з Гарадка. І ў калектыве ў іх, бадай, сіла: у аглядзе „Беларуская песня-76“ яны занялі аж тры першыя месцы — увесь калектыў у катэгорыі сучаснай песні, а два дуэты занялі першыя месцы ў катэгорыі фальклорнай і сучаснай песні. Гэта гаворыць само за сябе.

Не да пазнання выраслі дубяжынцы (маю тут на думцы перш за ўсё мужчынскі хор). Сёлета былі яны бесканкурэнцыйныя ў катэгорыі фальклорнай песні (І месца), а ў катэгорыі сучаснай песні вялікай колькасцю пунктаў перамог дубяжынец Аляксандр Раманюк.

Прыемнае ўражанне зрабілі таксама дзяўчаткі з Бельскага беларускага ліцэя. Імі пакіраваў Сяргей Лукашук (ІІ і ІІІ месца ў катэгорыі салістаў, ІІ — сярод вакальных калектываў, ІІІ — у дуэтах. Усё ў катэгорыі сучаснай песні).

Хацелася б, такім чынам, каб музычны інструктар даехаў ва ўсе куткі, дзе можна спадзявацца талентаў, каб заняўся не толькі калектывамі, а адпаведна дапамог і паасобным самародным песнярам (якіх жа робіцца ўсё менш). Хацелася б, каб гэта быў такі інструктар, які знаўся б не толькі на музыцы, але і ўмеў пераканаць вясковую жанчыну, што нават найбольш элегантная блузачка з эластыку не заменіць вышыванай ільняной блузкі пры рэгіянальных спевах, інструктар, які змог бы прывіць моладзі сапраўднае замілаванне да народных песень, спяваемых імі ад сэрца, а не па заказу, не таму, што гэта на конкурсе ходкі тавар.

**А. Чэчуга**

# НЕ ТОЛЬКІ ВУЧЫЦЬ І ВУЧЫЦЦА

(Працяг са стар. 3)

БССР“, трапна падабраны лозунг, даволі багатая бібліятэчка з беларускімі кнігамі, „Вясёлка“, „Бярозка“ і іншыя беларускія часопісы. Занятткі яна імкнецца весці займальна і цікава. У часе сваёй пабыўкі ў БССР яна наведала піянерскі лагер пад Мінскам, расказала піянерам аб сваіх вучнях і школе, запісала іх адрасы і, вярнуўшыся, дапамагла нараўскім школьнікам наладзіць перапіску з савецкімі сябрамі. У выніку вельмі плённага пісьмовага знаёмства дзесяткі лістоў кружыць паміж Нарвай і Мінскам, а ў класе-кабінеце паяўляюцца выстаўкі паштовак, значкоў, марак, сувеніраў з гэтага сяброўскага абмену. А. Якубоўская апякуецца школьным гуртком Таварыства польска-савецкай дружбы. ГуртKоўцы заўсёды старанна рыхтуюць і праводзяць школьныя ўрачыстасці ў гонар гадавін Кастрычніцкай рэвалюцыі і Дня Савецкай Арміі, пашыраюць падпіску савецкіх дзіцячых часопісаў і газет, выдаюць свае насценгазеты.

Але, на жаль, справа з пашырэннем навучання роднай беларускай мове ў нараўскай школе не выглядае прывабліва. Са звыш двухсот вучняў урокі па гэтаму прадмету наведвае ўсяго 20 асоб, і то ў класах V-VIII. Дырэкцыя школы і педагагічны савет не адводзіць належнай увагі гэтай справе, адносіцца да яе па-мачышынаму. Нават некаторыя настаўнікі не пасылаюць сваіх дзяцей на ўрокі роднай мовы. Ці да іх не прамаўляе верш-лозунг, што выпісаны ў кабінеце беларускай мовы:

*„Ты мой брат, каго зваць беларусам,*
*Мовы свае не цурайся,*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Дык і вольны цяпер не зракайся!“*

Над гэтым заклікам вядомага нашага паэта павінны задумацца і настаўнікі, і моладзь і бацькі ды блізка прыняць яго да сэрца.

Адна настаўніца роднай мовы, хоць яна дасканалы спецыяліст-педагог і тытан працы, гэтай важнай грамадскай справе сама не зможа даць рады.

Калі я ўжо з ёю развітваўся, яна раптам прыгадала:

— Я вельмі люблю сваю мясціну, хоць і нялёгка мне тут. Ужо пяты год з'яўляюся старшынёй Гміннага савета жанчын. Мы праводзім шмат мерапрыемстваў. З лекцыямі выступаюць лекары, ветэрынары, аграномы, адбываюцца курсы пячэння і варэння, а ў мінулым годзе Нарва заняла на Гайнаўшчыне першае месца ў конкурсе на самы прыгожы агародчык з кветкамі. Усім нам, нараўскім жанчынам, так хочацца, каб было ўтульна і красачна каля кожнай хаты і ў хаце...

**І. Снарскі**
Фота аўтара

*Алла Якубоўская з грамадкай сваіх вучняў.*

## Беларусіяна

### БЕЛАРУСЫ Ў ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ

Выйшла з друку фундаментальная праца **„Гісторыя Польшчы“**. З гэтай нагоды рэдакцыя варшаўскага тыднёвіка **„Літаратура“** наладзіла дыспут, апублікаваны ў нумарах ад 18 і 25 сакавіка г.г.

Падчас дыспуту выказана шмат істотных крытычных заўваг у адрас аўтараў **„Гісторыі Польшчы“**. Нас, вядома, асабліва цікавяць тыя заўвагі, якія датычаць беларускай тэматыкі.

Вядомы польскі вучоны, прафесар Стэфан Кяневіч заўважыў, што ў **„Гісторыі Польшчы“** ўдзелу Беларусі і Літвы ў Студзеньскім паўстанні прысвечаны ўсяго адзін сказ, у якім упамінаецца пра Серакоўскага і Ружыцкага. *„Калі дастаткова тут аднаго сказа, дык хацелася б прачытаць у ім прозвішчы тых, што адыгралі там гістарычную ролю — Каліноўскага і Мацкевіча“*, — м. ін. сказаў праф. С. Кяневіч.

Іншы дыспутант, прафесар Ежы Тамашэўскі схільны да погляду, што зносіны Радзівілаў са Швецыяй у палове семнаццатага стагоддзя з'яўляліся, відаць, працягам барацьбы за незалежнасць Вялікага княства Літоўскага, якое ўжо на пераломе наступнага стагоддзя страціла сваю палітычную аўтаномію ў рамках Рэчыпаспалітай Абодвух Народаў. Вельмі шкада, падкрэслівае праф. Е. Тамашэўскі, што ў **„Гісторыі Польшчы“** не паказаны ўзаемасувязі паміж палякамі і беларусамі: культурныя, палітычныя, гістарычныя. Спасылаючыся на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, праф. Е. Тамашэўскі ўпамінае пра знамянальны ў гэтым сэнсе прыклад: Сымон Будны, постаць вядомая ў польскай гісторыі, з'яўляўся адначасова адным з пачынальнікаў беларускай літаратуры, у XVI ст. польска-беларускія ўзаемасувязі мелі шырокае, не толькі мясцовае значэнне. Беларускія сляды надта выразныя ў гісторыі Польшчы і яе культуры наогул.

Праф. Генрык Зялінскі сцвердзіў, што пытанне нацыянальных меншасцей, якое з'яўлялася вельмі важным у даваеннай Польшчы, амаль зусім выкрэслена з **„Гісторыі Польшчы“**. У выніку — атрыманы неадэкватны да рэчаіснасці вобраз буржуазнай польскай дзяржавы ў дваццацігоддзі паміж сусветнымі войнамі.

**Сакрат Яновіч**

## Кажуць што...

*Чыноўнікі чаромхаўскай гміннай управы доўга памятаюць аб сваіх даўжніках. І хоць некаторыя з іх адышлі ўжо ў нябеснае каралеўства, квітанцыі пішуць чыноўнікі сюды, на зямлю. Так, напрыклад, ёсць з жыхаром Кузавы Х. С. Ён памёр у снежні 1966 года, а ў чаромхаўскай гміннай управе на ўсіх „актах“ жыве далей. І мне здаецца, што не адзіны гэта выпадак. Ці ж гэта не смешна?.. (ус)*



## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XVI

**Матыў змагання і барацьбы.** Два наступныя вершы цыкла „Не праспі, званару“ і „З гары высокае званіцы“ сваім характарам нагадваюць некаторыя рамантычныя прыёмы. Рамантыкі вельмі ахвотна звярталіся да постацей званароў і музыкантаў, прыпісваючы ім функцыю будзіцеляў прыгнечаных народаў або пакрыўджаных грамадскіх слаёў. З такой рамантычнай тэндэнцыі вырастаюць, несумненна, вышэй названыя два вершы. У творы „Не праспі, званару“ паэт заахвочвае званара да пільнасці. Песня яго звону, — на думку паэта, — абудзіць людзей, павядзе іх на барацьбу:

*„Няхай рынуць у бойку цеснай грамадою*
*Тыя, над кім віслі цяжкай долі кары“.*

Верш „З гары высокае званіцы“ гэта як бы прадаўжэнне верша „Не праспі, званару“. У першым вершы паэт заклікаў званара, заахвочваў яго да дзейнасці, у другім — апісвае дзеянне званоў і іх уплыў на людзей:

*„З гары высокае званіцы*
*Званы прызыўна загулі;*
*І гуд грамовы іх імчыцца*
*Абшарам соннае зямлі.*
*Дрыжыць вакол ціша глухая,*
*Трасе паветра медны гуд*
*І ўсё, што спіць, ён паднімае*
*Вакол сябе, і там, і тут.*
*„Уставай, хто спіць“ — у звоне чутна*
*Размова гучных вагкіх слоў.*
*„Скідай свой сон, ліхі, атрутны,*
*Цягучы сон доўгіх вякоў“.*

Цікавы тут прыём анімізацыі званоў. Паэту здаецца, што званы валодаюць мовай, сваім крыкам будзяць людзей і заахвочваюць іх да змагання.

Усе іншыя вершы з цыкла **„Змаганне і барацьба“** — гэта непасрэдны зварот паэта да людзей. У творы „Ідзі дарогаю зарослай“ аўтар звяртаецца да бліжэй невядомага чалавека. Паэт гаворыць, што шлях барацьбы ёсць заўсёды шляхам цяжкім і небяспечным. Таму, хто па ім пойдзе, пагражаюць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перашкоды. Барацьбіту будуць спадарожнічаць сумненні, страх, пагроза смерці, аднак усё гэта павінна толькі гартаваць волю чалавека.

*„Загартуй сваё цярпенне*
*І будзь цвёрды ў барацьбе!“*

Так заахвочвае і так натхняе паэт чалавека, які рашыўся пайсці шляхам змагання.

Два апошнія вершы „Мой браце, змагайся“ і „Не нудзі, брат, суніміся“ былі напісаны Гартным у Петраградзе. Мабыць, радыкальная атмасфера гэтага горада была адной з прычын, акрэсліўшых рэвалюцыйны настрой вершаў. Да найбольш радыкальных твораў паэта трэба залічыць верш „Мой браце, змагайся“. Выступае ў ім ужо вядомы нам матыў дарогі змагання і звязаных з гэтым змаганнем цяжкасцей і перашкод.

Верш канчаецца дзвюма строфамі, якія можна лічыць яўным заклікам да рэвалюцыі.

*Ваецкай адвагі,*
*Сталявога гарту!*
*Балючыя скаргі*
*Раздуй у пажар ты.*
*Цярпення людскога*
*Ўскалыхаш падпоры.*
*Жыццё там — дзе змога,*
*Дзе смерць — там пакора“.*

У падобным стылі ўтрыманы таксама верш „Не нудзі, брат, суніміся“. Паэт зноў вяртаецца да матыву шляху барацьбы, да цяжкасцей і да перспектывы канчатковай перамогі.

Амаль усе вершы, прадстаўленыя ў цыкле „змаганне і барацьба“, адзначаюцца пэўнымі пастаяннымі стылістычна-мастацкімі формамі. Выступаюць у іх рысы мітынгавых прамоў, рысы красамоўнага мастацтва. Нягледзячы на тое, што па сутнасці ва ўсіх гэтых творах паэт звяртаецца да аднаго чалавека, з'яўляюцца яны формай размовы з масамі. Прадстаўленыя творы — гэта запаветы барацьбы. Галоўныя наказы запаветаў — гэта рух, актыўнасць, ахвярніцтва, змаганне. Перспектывы змагання — перамога. Гэтыя вершы Гартнага нагадваюць рэвалюцыйную лірыку Цёткі з перыяду першай рускай рэвалюцыі. Гартны, як і раней Цётка, карыстаецца простымі сімваламі, заклікамі, аптымістычнай перспектывай. У гэтых вершах рамантызм і рэалізм падалі сабе рукі.

## CZESŁAW NIEMEN



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

*ЗАКАЗВАЛІ:*
*Н. Аксюцік, Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі, Я. Врублеўскі з Бельска, Г. Гаінская, Г. Капчэўская са Страблі.*

## ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца мне, быццам знаходжуся я недзе за мяжой. Вельмі прыгожая мясцовасць. Думаю: я на Каўказе. Бачу, не! Гэта ж Балгарыя! Напэўна, яна. Мясцовасць вельмі гарыстая. Горы невысокія, але вострыя. Многа іх, заходзяць адна за другую. І ўжо не бачу нічога, апрача гэтых гор. І я плыву паміж імі, бадай, нейкай лодкай. Узнімаюся на вяршыню адной гары, спаглядаю ўніз, але ведаю цвёрда, што гэта небяспечна, што магу зваліцца, і таму моцна трымаюся за калегу па рабоце (які сядзіць з левага боку), а правай рукою таксама за нешта трымаюся, быццам за парус. І так прыехала, трымаючыся, у нейкае памяшканне, дзе былі мае сябры з Берліна. Яны быццам прыехалі да нас і пачалі выкладваць падарункі, якія прывезлі мне і маёй сям'і. Былі гэта вельмі прыгожыя, шаўковыя начныя рубашкі, з фальбанкамі, вышываныя. Усё ў падобных тонах, густоўнае. Я вельмі ўсцешылася, што атрымала такія прыгожыя падарункі і... прачнулася.

Крыся

Ваш сон супярэчлівы. Вядома вам ужо, напэўна, што бачыць у сне горы — гэта значыць мець нейкія цяжкасці, затрудненні ў справах. Тым больш, што вы глядзелі ўніз, у прорву. Але большасць фактаў гаворыць у вашу карысць. Перш за ўсё; вы ж былі за граніцай (дзе — не ведаеце дакладна, але цвёрда ўпэўнены, што за граніцай). А гэта абазначала б, што пасля цяжкасцей чакае вас перамена на лепшае. Можа быць гэта шчаслівае замужжа: вы ж па гарах лёгка плылі лодкай (перамагалі цяжкасці) і не былі адны, а з калегам, за якога моцна трымаліся. Іншая была б справа, калі б вы плылі ў лодцы самотна — абазначала б гэта страту любімага прыяцеля, плысці ў лодцы ўдваіх — гэта шчаслівае замужжа. Другая частка вашага сну таксама прадвяшчае нешта радаснае. Атрымліваць падарункі — значыць мець нейкі прыбытак, тым больш, што кашулі ўсе былі шаўковыя, вышываныя і вельмі прыгожыя.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Н. пасвіла кароў на сенажаці К. Найчасцей яе кароў пасвіла яе дачка і зяць, якія разам з ёй гаспадарылі. К. падала ў суд, і суд забараніў Н. пасвіць кароў на сенажаці К. Судовы выканаўца прыехаў на месца і рашэнне суда выканаў. На другі год дачка і зяць Н. пачалі зноў пасвіць кароў на сенажаці К. Яны апраўдваюцца, што рашэнне суда да іх не адносіцца, бо яно забараняе пасвіць кароў Н., а не ім, а паколькі яны пасуць ужо кароў два гады, К. па даўнасці не можа патрабаваць звароту ўладання, тым больш, што сенажаць належыць да спадчыны, на якую мае права не толькі К., але і Н. Ці К. можа патрабаваць, каб дачка і зяць Н. не парушалі яе ўладання?

АДКАЗ: Калі хто валодае нерухомай маёмасцю, нават уласнік гэтай маёмасці не мае права самавольна парушаць гэтага ўладання. Суд у гэткіх выпадках не правярае, хто з'яўляецца ўласнікам, а калі будзе даказана, што хтосьці валодаў маёмасцю, наказвае парушальніку вярнуць маёмасць таму, хто ёю дагэтуль карыстаўся. Уладальнік можа дабівацца сваіх правоў на працягу аднаго года. Пасля гэтага тэрміну можа патрабаваць звароту маёмасці, калі выкажацца тытулам уладальнасці. Калі Н. і К. маюць права на маёмасць як спадчыну, то гэткае патрабаванне было б немагчымае. У нашым прыкладзе К. можа патрабаваць ад зяця і дачкі Н., каб яны не парушалі яе ўладання, нават, калі яны карысталіся сенажаццю перад тым, калі суд забараніў Н. парушаць уладанне К., таму, што яны выконваюць толькі права Н. А адносна Н. гадавы тэрмін яшчэ не мінуў, бо тое, што было перад рашэннем суда, не лічыцца, і тэрмін для падавання справы ў суд будзе лічыцца ад новага парушэння права.




Дараґое Сэрцайка! Я заўсёды смяяўся з тым, хто прасіў у цябе парады, звязаныя з каханнем. Сёння думаю інакш. Мне ўжо 28 гадоў, я закончыў вышэйшую адукацыю і працую. З выгляду, кажуць, я прыгожы. Дзяўчатам заўсёды падабаўся, але да гэтай пары я ўвесь свой вольны час прысвячаў самаадукацыі. І вось паўгода назад пазнаёміўся з дзяўчынай. Яна на пяць гадоў маладзейшая за мяне. Закахаўся па вушы. Ды яна, аказваецца, ужо мела хлопца, якому аддалася. Ад гэтага часу не магу знайсці спакою, ды і на рабоце пачынае не ладзіцца. Што рабіць? Пагадзіцца з гэтым? Ці нашае жыццё не стане тады кашмарам для мяне і для яе? А калі пакіну, то ці змагу забыць яе? Сэрцайка, не літуючыся нада мной, адкажы па праўдзе на старонках „Нівы".

Сяргей з Бельска Падляшскага

Сяргей! Занадта пераўвялічыў ты гэтую, праўду кажучы, неістотную ў сямейным жыцці справу. Мінулі тыя часы, калі хлопец, ажаніўшыся і сцвердзіўшы, што яго жонка не „цнатлівая", мог яе нават забіць і за гэта не адказваў. У дваццатым стагоддзі погляд на гэтую справу радыкальна змяніўся. Важна, што „закаханы ты ў ёй па вушы". А да таго, што было калісьці, пакуль дзяўчына цябе не спаткала, ніколі не вяртайся. Ты ж таксама яшчэ не яе муж і невядома, ці ім будзеш...

**Сэрцайка**



## Куток практычных ведаў




### ВІЗІТНЫЯ СУКЕНКІ

Набліжаюцца велікодныя святы — пара неадлучных візіт сваякоў і знаёмых. Як апрануцца, каб заўсёды выглядаць элегантна?

Перш за ўсё трэба памятаць, што элегантна — значыць, адпаведна да выпадку. Справа ў тым, што інакш павінна апрануцца жанчына, якая будзе выконваць ролю гаспадыні, будзе прымаць гасцей, а зусім інакш — жанчына, якая ідзе ў госці.

Жанчына, якая прымае гасцей, павінна быць апранута намнога скрамней не толькі таму, што будзе ў яе пры гасцях шмат працы і вопратка павінна быць простая і зручная, але і таму, што калі яна апранецца вельмі святочна, то хтосьці можа да яе прыйсці ў больш скромнай вопратцы і будзе адчуваць сябе тады дрэнна. А для ўсіх жа нас вельмі важна, каб госць адчуваў сябе добра ў святочнай гасціне, якую мы старанна рыхтавалі і якой прысвяцілі шмат часу і энергіі.

На 3 нашых здымках вы бачыце, як павінна апрануцца гаспадыня. Павінна гэта быць скромная сукенка, якую можна ўпрыгожыць белым каўнерыкам, кветкай ці брошкай. Паколькі нават у найлепш арганізаванай гасціне трэба нешта зрабіць на кухні, варта падрыхтаваць сабе заўчасна чысты прыгожы фартушок, які будзе ахоўваць нашу сукенку ад забруджвання і дазволіць нам нават і на кухні выглядаць прыгожа.

**Сяброўка**




25 лістапада партызанскі атрад на чале з Кірылам Арлоўскім адбіў у акупантаў маёнтак памешчыка Міліцэра ў вёсцы Шпылеўшчына, а на наступны дзень заняў вёску Старцы, маёнтак фон Гоера. Акупанты ў паніцы ўцякалі. А што паніка была вялікая, гаворыць такі факт: у аперацыях удзельнічала не больш сарака партызан, а ворагу падалося, што наступае ледзь не паўтысячны атрад. Так, „Мінская газета", якая выходзіла на грошы акупантаў, 27 лістапада 1918 года перадрукавала паведамленне газеты 10-й нямецкай арміі, у якім гаварылася: „Учора раніцай на паўночны ўсход ад Бабруйска... ад 300 да 400 чалавек напалі на нашы войскі пры адыходзе з Качэрыч у Старцы, ёсць параненыя".

Усяго ж атрад заняў больш дваццаці населеных пунктаў, разбіў качэрыцкую ўправу, якая супрацоўнічала з акупантамі, і яшчэ да прыходу часцей Чырвонай Арміі стварыў Качэрыцкі валасны рэўком. У склад яго ўвайшлі Барадуленка, браты Ілья і Канстанцін Русанавы, Аляксандр Рабцэвіч, Лазар Іваноў. Ваенным камісарам валаснога рэўкома стаў камандзір партызанскага атрада Кірыла Арлоўскі. Але камісарыць яму давялося нядоўга.

У снежні 1918 года, адразу ж пасля выгнання акупантаў з Бабруйска, яго выклікалі ў павятовы камітэт партыі. У Бабруйску камісара рэўкома як старога і добрага знаёмага цёпла сустрэлі Раеўскі і Новікаў. Вінавата ўсміхаючыся, Раеўскі адрэкамендаваў:

— Платон Равінскі — старшыня Бабруйскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта.

— Барыс Найман — старшыня Бабруйскай павятовай надзвычайнай камісіі, — у сваю чаргу назваў Новікаў.

— Магчыма, злуеш на нас, што не адкрыліся тады, у чэрвені? — спытаў старшыня ЧК у Арлоўскага.

— Злаваў, але не на вас, а на сябе. Не трэба было забываць пароль.

Пасля многія гады не раз даводзілася Арлоўскаму карыстацца паролем, але на ўсё жыццё запомніў ён свой першы промах у Бабруйску.

У снежні 1918 года Кірылу Арлоўскага прынялі ў рады бальшавіцкай партыі. Рэкамендавалі яго Платон Равінскі, Барыс Найман і Канстанцін Русанаў.

Арлоўскі атрымаў партыйны білет № 0094117. У графе „дата ўступлення" значылася: чэрвень 1918 года (час стварэння Арлоўскім партызанскага атрада).

Тады ж павятовы камітэт партыі накіраваў маладога камуніста на работу ў Бабруйскую надзвычайную камісію.

• • •

Нядоўга працаваў Кірыла Арлоўскі і ў ЧК. Храбрага партызанскага важака ў красавіку 1919 года накіроўваюць на курсы камсаставу Чырвонай Арміі. Больш за дзесяць месяцаў вывучае ён ваенныя навукі ў Мінску, Магілёве, Маскве. Было шмат і практычных „заняткаў": чырвоным курсантам часта даводзілася пакідаць вучэбныя класы і брацца за зброю, змагацца з ворагамі Савецкай улады.

За час вучобы Кірыла Арлоўскі не раз быў і ў тыле ворага. Заходні фронт ён ведаў, як свой дом, і таму ў сакавіку 1920 года, калі скончыў першыя Маскоўскія пяхотныя курсы, папрасіўся на Заходні фронт.

Унутраныя і знешнія ворагі рабілі ўсё, каб задушыць маладую Савецкую дзяржаву. А ўлада Саветаў не толькі жыла, але і мацнела. Да рашучых бітваў з акупантамі рыхтавалася Чырвоная Армія. У тыле ворага ўсё шырэй разгаралася полымя партызанскай барацьбы.

У красавіку 1920 года Цэнтральны Камітэт Кампартыі Літвы і Беларусі прыняў рашэнне аб дапамозе мясцовым падпольным арганізацыям у разгортванні партызанскага руху. І Кірылу Арлоўскаму, быламу франтавіку, які меў вопыт партызанскай барацьбы, аднаму з першых прапанавалі адправіцца ў тыл ворага. „Я ахвотна згадзіўся", — коратка пісаў ён пра гэта пазней.

Падрыхтоўка была нядоўгая: дзесяцідзённыя курсы па падрыўной справе, некалькі дзён разведвалі дарогу, якой меркавалі ісці праз лінію фронту. Ноччу 15 мая 1920 года Арлоўскі разам з групай байцоў шчасліва пераправіўся цераз Бярэзіну, якая ў той час і была лініяй фронту. Пераправа ўзяла шмат часу. „Для пераправы мы мелі толькі адну лодку—„душагубку", і, каб пераправіць нас на бераг праціўніка, лодачніку давялося адзінаццаць разоў пераехаць раку", — успамінаў пасля Арлоўскі.

Толькі на світанні ўся група сабралася на чужым беразе. Неба завалаклі хмары, пайшоў дождж. Пад яго прыкрыццём байцы і прашмыгнулі міма варожых акопаў у лес. Адпачылі і, падзяліўшыся на невялікія групкі, рушылі далей. Разам з рудабельскім партызанам Іванам Каваленкам Арлоўскі

